# ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

## XII–XVIII СТАГОДДЗЯЎ

ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ XII–XVIII СТАГОДДЗЯЎ



ЮВЕЛІРНАЕ МАСТАЦТВА
МАСТАЦКІ МЕТАЛ

КЕРАМІКА
ФАЯНС
ШКЛО
САЛОМКА
СКУРА

ТКАНІНЫ
ВЫШЫЎКА
КАРУНКІ
ШПАЛЕРЫ

ЮВЕЛИРНОЕ ИСКУССТВО
ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ МЕТАЛЛ

КЕРАМИКА
ФАЯНС
СТЕКЛО
СОЛОМКА
КОЖА

ТКАНИ
ВЫШИВКА
КРУЖЕВА
ШПАЛЕРЫ

JEWELLERY
METAL

CERAMICS
FAIENCE
GLASS
STRAW
LEATHER

FABRICS
EMBROIDERY
LACE
TAPESTRY

# ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

XII–XVIII
СТАГОДДЗЯЎ

**ДЕКОРАТИВНО-ПРИКЛАДНОЕ**
**ИСКУССТВО БЕЛОРУССИИ**
**XII–XVIII ВЕКОВ**

**DECORATIVE-APPLIED**
**ART OF BYELORUSSIA**
**XII–XVIII CENTURIES**

**L'ART DÉCORATIF ET APPLIQUÉ**
**DE LA BIÉLORUSSIE**
**DES XII–XVIII SIÈCLES**

**KUNSTGEWERBE**
**BELORUSSLANDS**
**12. BIS 18. JH.**

**ARTE DECORATIVO APLICADO**
**DE BIELORRUSIA**
**(SIGLOS XII–XVIII)**

# ДЕКОРАТИВНО-ПРИКЛАДНОЕ ИСКУССТВО БЕЛОРУССИИ
## XII–XVIII ВЕКОВ

# DECORATIVE-APPLIED ART OF BYELORUSSIA
## XII–XVIII CENTURIES

# L'ART DÉCORATIF ET APPLIQUÉ DE LA BIÉLORUSSIE
## DES XII–XVIII SIÈCLES

# KUNSTGEWERBE BELORUSSLANDS
## 12. BIS 18. JH.

# ARTE DECORATIVO APLICADO DE BIELORRUSIA
## SIGLOS XII–XVIII

# ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

## XII–XVIII

### СТАГОДДЗЯЎ

ЮВЕЛІРНАЕ
МАСТАЦТВА

МАСТАЦКІ
МЕТАЛ

КЕРАМІКА
ФАЯНС
ШКЛО
САЛОМКА
СКУРА

ТКАНІНЫ
ВЫШЫЎКА
КАРУНКІ
ШПАЛЕРЫ

МІНСК
«БЕЛАРУСЬ»
1984

ББК 85.12
Д28

Аўтар тэксту і складальнік
Н. Ф. ВЫСОЦКАЯ



Рэцэнзенты:
ВАГНЕР Г. К.
ДАРКЕВІЧ У. П.
НІКАЛАЕВА Т. В.

Кансультанты:
ВІШНЕЎСКАЯ І. І.
МАРКАВА Г. А.
ЯГЛОВА Н. Ц.
ГАДРЫ ЭВЕЛІН (Францыя)

Фота
ЛІХТАРОВІЧА Г. Л. (157)
РАЯКА П. М. і
КРАЎЧУКА В. Р. (9)
ПРОНІНА І. Ф. і
ХЕЙФІЦА Л. Г. (6)

Падрыхтавалі творы
для фатаграфавання:
КАРПЕНКА А. У.
УЛЕЗЛА Я. Р.
ШПУНТ А. С.

Д 4904000000—197 / М 301 (05)—84 Без аб'яўл.

Альбом знаёміць чытача з выдатнымі помнікамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва перыяду ад сярэдніх вякоў да эпохі Асветніцтва, якія створаны і выяўлены на беларускай зямлі. Яны захоўваюцца ў калекцыях Беларусі, вядучых музеях нашай краіны. Многія з іх, знойдзеныя ў пасляваенны час савецкімі даследчыкамі, публікуюцца ўпершыню.

Спецыфіка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, своеасаблівасць матэрыяльна-тэхнічных уласцівасцей асобных галін яго вызвалі неабходнасць вылучыць у альбоме тры раздзелы. Першы з іх прысвечаны ювелірнаму мастацтву і мастацкаму металу, другі — кераміцы, фаянсу, шклу, скуры, саломцы, трэці — тканінам, вышыўцы, карункам, шпалерам.

Такая сістэматызацыя матэрыялу дазволіла прасачыць час станаўлення і развіцця асобных відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі XII—XVIII стст., выявіць іх характэрныя рысы, самабытнасць, узаемасувязі і ўплывы, вызначыць асноўныя асаблівасці мясцовай мастацкай школы.

Найбольш характэрнай галіной мастацкага рамяства сярэдневякоўя была ювелірная справа. Помнікі ювелірнага мастацтва і мастацкага металу[1], знойдзеныя ў многіх старажытных гарадах Беларусі, дапамаглі ўдакладніць своеасаблівасць іх гісторыі і тыпова старажытнарускай культуры[2]. Фарміраванне яе адбывалася пад уплывам Кіеўскай Русі, якая, у сваю чаргу, развівалася пад уздзеяннем Візантыі. Гэта красамоўна пацвярджаюць знойдзеныя ў Беларусі работы кіеўскіх залатароў: шэдэўр Старажытнай Русі — крыж Ефрасінні Полацкай (1161)[3], створаны выдатным мастаком Лазарам Богшам, які бліскуча валодаў геаметрычнай і свабоднай манерай малюнка перагародкі, і колты з Вішчына, скроневае кольца са Стара-Барысава. Засваенне кіеўскіх і візантыйскіх традыцый мясцовымі майстрамі добра выяўляецца ў свінцовых абразах з Турава[4], абразку «Барыс і Глеб» з Копысі, медальёне з адлюстраваннем Дзмітрыя з Ваўкавыска, у фрагментах алтарнай перагародкі з Гродна. Гэта яшчэ раз пацвярджае наяўнасць шляху з «вараг у грэкі», які садзейнічаў стварэнню трывалых і пастаянных кантактаў заходнерускіх гарадоў праз Кіеў з Візантыяй, а таксама прывозу абразоў у Полацк і першакласных узораў візантыйскага шкла ў Навагрудак.

Асваенне дасягненняў мастацтва Кіеўскай Русі і Візантыі адыграла асноватворную ролю ў станаўленні і развіцці культуры заходнерускіх гарадоў.

У Беларусі знойдзены помнікі свецкага мастацтва XII—XIII стст.— амулеты, колты, бранзалеты, скроневыя кольцы, вухачысткі. У іх, як і ў пластыцы Беларусі XII—XIII стст., прасочваюцца рысы «звярынага стылю» і засваенне дасягненняў аб'ёмнай скульптуры малых форм — выяўленчых шахмат «з тварыкам»[5], што назіраецца ў вухачыстцы з Навагрудка.

Майстры старажытных гарадоў Беларусі былі добра знаёмы з многімі тэхнічнымі прыёмамі апрацоўкі металу: ліццём з раз'ёмнай формай і са стратай формы, коўкай, чаканкай, зерню, сканню (філігрань), валачэннем дроту, чэрню, гравіроўкай, перагародчатай і выемчатай эмаллю.

Віртуозна ў тэхніцы ліцця па форме выкананы «Амулет-змеявік», свінцовыя абразкі з Турава, абраз «Барыс і Глеб», вухачыстка. Вялікім майстэрствам вызначаецца гравіроўка медальёна з адлюстраваннем Дзмітрыя і пласцін алтарнай перагародкі з Гродна — унікальных помнікаў, якія дапамагаюць уявіць афармленне алтарнай перагародкі XII ст.

Як і ў дробнай пластыцы, у мастацкім метале сустракаюцца помнікі раманскага мастацтва («Вадаліў» з Паўднёвай Германіі), якія яшчэ раз пацвярджаюць наяўнасць непасрэдных кантактаў старажытных гарадоў Беларусі з заходнееўрапейскімі краінамі, што аказалі пэўны ўплыў на мясцовую культуру.

Стварэнне ў Заходняй Русі лакальнага круга помнікаў адбывалася ў пераасэнсаванні традыцый мастацтва Візантыі, Кіеўскай Русі, Заходняй Еўропы, краін Міжземнамор'я і Усхода («Птушачка» з Полацка, фаянсавая чаша з Навагрудка)[6]. Ускосным пацвярджэннем выканання вырабаў на месцах з'яўляецца знаходжанне ў іх кварталаў рамеснікаў[7], а таксама ліцейных форм, тыгляў, льячкоў, нарыхтовак сыравіны, інструментаў[8]. Гэта дазваляе меркаваць аб наяўнасці пачаткаў рамесных аб'яднанняў, якія мелі месца ў іншых старажытнарускіх гарадах[9].

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XIII стст., як і фрэскавы жывапіс, архітэктура, у якой даследчыкамі выяўлена некалькі архітэктурных школ, пластыка, дэманструе высокі ўзровень культуры заходнерускіх гарадоў. Яна стала магутным фундаментам для развіцця мастацтва наступнага важнейшага этапу ў гісторыі Беларусі (XIV—XVIII стст.).

Помнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва гэтага перыяду, якія выконваліся ў асноўным па заказу свецкіх і царкоўных феадалаў[10], цесна ўзаемазвязаны з архітэктурай Беларусі[11], яе мастацкімі стылямі.

У мастацтве Беларусі XIV—XVIII стст. вядучай галіной былі мастацкі метал і ювелірнае мастацтва, што адзначалася ўжо некаторымі даследчыкамі[12]. Іменна ў ёй працавала самая вялікая

колькасць майстроў (больш як 1700 у Вільна і Беларусі)[13], захавалася і вядома па літаратуры і архіўных крыніцах значная колькасць датаваных твораў[14]. У Беларусі налічвалася шмат цэхаў залатароў і сярэбранікаў[15], структура якіх больш за іншыя набліжалася да заходнееўрапейскіх. Гэтыя цэхі ўтрымаліся ў Беларусі і Вільна да канца XVIII ст.[16]

У залатых і сярэбраных вырабах Беларусі[17] канца XV—XVII ст. назіраецца засваенне дасягненняў заходнееўрапейскага мастацтва і стварэнне нацыянальнай мастацкай школы.

Уласцівыя готыцы рысы і элементы добра прасочваюцца ў пацірах канца XV—XVI ст. з Ружан і Навагрудка, якія тыпалагічна бяруць пачатак з твораў Германіі і Польшчы[18].

У помніках XV— пачатку XVII ст. відаць неаслабныя плённыя кантакты з мастацтвам Італіі[19]— лыжачка, рама алтарнай карціны і пацыфікал у Гродна, які датаваны 1591 г. і з'яўляецца першакласным узорам нямецкай тарэўтыкі, створанай пад уплывам італьянскага маньерызму.

Станаўленне сваёй нацыянальнай мастацкай школы адбывалася з улікам традыцый мясцовага мастацтва папярэдняга этапа і спалучэннем іх з дасягненнямі еўрапейскай культуры. Складанасць гэтага працэсу каранілася ў асаблівасцях гістарычнага развіцця Беларусі. Узаконенае Брэсцкай уніяй (1596) панаванне каталіцкай царквы выклікала неаслабную барацьбу беларускага народа за нацыянальную незалежнасць, мову, культуру. Таму засваенне заходнееўрапейскага мастацтва, якое нярэдка асацыіравалася з дзейнасцю ваяўнічага ордэна езуітаў і каталіцкай царквы, у значнай ступені было абмежавана прычынамі палітычнага характару. Яно ішло ў асноўным праз найбольш мабільнае мастацтва кніжнай гравюры[20].

Беражлівае захаванне праваслаўнага традыцыйнага канона назіраецца ў алтарным крыжы канца XVI— пачатку XVII ст. давыд-гарадоцкага майстра. Яго твор адрозніваецца ад тыпалагічна блізкіх пацыфікалаў у Пінску, Будславе, Гродна плоскаснай дэкарыроўкай формы. Мабыць, такая дэкарыроўка з'яўляецца характэрнай рысай мясцовай мастацкай школы на дадзеным этапе. Аналагічнае разуменне дэкора ўласціва полацкаму майстру, які стварыў у канцы XVI ст. «Крыж-рэлікварый» — так званы ўяўны крыж Параскевы Полацкай[21].

У шэрагу помнікаў канца XVI—XVII ст.— кубкі з Брэста, рашоткі ў Вішневе, Міхалішках, рэлікварыі майстра HP.G — усё больш відавочным становіцца нарастанне рыс барока[22].

Стыль барока з яго ўрачыстай пышнасцю, пампезнасцю, павышанай дэкаратыўнасцю, які зарадзіўся ў Італіі ў канцы XVI ст., праслаўляў каталіцкую царкву, ствараў ілюзію сацыяльнага і палітычнага дабрабыту. Ён набыў у Беларусі лакальны характар, мясцовыя асаблівасці, чаму ў значнай ступені садзейнічалі як густы заказчыкаў, так і тое, што ў стварэнні помнікаў побач з заходнееўрапейскімі мастакамі прымалі ўдзел беларускія майстры, якія абапіраліся на традыцыі мясцовага народнага мастацтва.

Вялікая роля ў станаўленні і развіцці мясцовай школы належыць замежным золатакавалям, якія працавалі ў Беларусі.

Наяўнасць значнай колькасці датаваных твораў дае магчымасць прасачыць канкрэтныя этапы развіцця гэтага стылю ў Беларусі.

У вырабах канца XVI— пачатку XVII ст. яшчэ моцныя рысы Рэнесанса (кубкі, паясы з Брэста, рашоткі ў Вішневе, рэлікварый майстра HP.G), гатызіруючыя элементы, або так званае «гатычнае барока»[23] (рамы алтарных карцін у Пінску і Будславе, пушка-цыборыум у Полацку).

Нарастанне барочных рыс назіраецца ў пласціне (1640), абразе (1652). У іх яшчэ нясмела ўведзены арнаментальны матыў кнорпеля (армушэля). Засвоіўшы моду на кветкавы арнамент (Blümenmode), якая зарадзілася ў 1650—1660 гг. у Галандыі і панавала ва ўсёй Еўропе, майстры ад абстрактнага дэкора пераходзяць да сакавітага барочнага расліннага арнаменту.

У помніках сталага барока (другая палавіна XVII ст.) да натуралістычнасці рэльефна прачаканьваюцца цюльпаны, макі, гваздзікі, нарцысы, півоні, ландышы на невялікіх сцяблах (рыза алтарнай карціны ў Камаях) або на больш пышных і доўгіх (табернакулум у Нясвіжы, аправа абраза са Старых Дзевяткавічаў).

Адзін з асноўных матываў сталага барока — акант — з'яўляецца ў помніках Беларусі з 1666 г. (пацір з Ружан), трымаецца да канца XVII ст. (аправа місалы, 1695) і ў больш засушаным выглядзе пераходзіць у мастацтва наступнага стагоддзя.

У прыкладным мастацтве Беларусі сярэдзіны — другой палавіны XVII ст. адбылося засваенне новых арнаментальных матываў і прыёмаў чаканкі. Гэтая новая арнаментыка пачынае пранікаць і ў помнікі, створаныя для праваслаўнай царквы.

Этапнымі творамі, што сведчаць аб аваладанні мясцовымі мастакамі новымі прыёмамі чаканкі, якую яны спалучаюць з ліццём, гравіроўкай і павышаным рэльефам, з'яўляецца абраз «Маці Боская Адзігітрыя» са Слуцка, крыж дзісненскага брацтва (1673) і аправа Евангелля з Урэчча. Яны вызначаюцца багаццем каларыту, дасягнутага разнастайнасцю тэхнік: праразной чаканкай, чэрню, ліццём па форме, гравіроўкай, філігранню.

Поспехі мясцовых майстроў знайшлі яркае ўвасабленне ў аправе Евангелля канца XVII ст.— 1703 г. у Дзісне. Пышны раслінны чаканны рознавысокага рэльефу арнамент з аканта, фруктаў, крылатых анёлаў абрамляе цэнтральную драбніцу аправы Евангелля з адлюстраваннем Уваскрэсення Хрыстова, у якім спалучаюцца ўсходне- і заходнееўрапейскі іканаграфічныя зводы.

У сярэдзіне — другой палавіне XVII ст. беларускія залатары засвоілі новыя тэхнічныя прыёмы чаканкі рознавысокага рэльефу, арнаментыку сталага барока і спалучылі іх з народнымі густамі, стварылі свой, лакальны варыянт барочнага мастацтва.

Гэты мясцовы варыянт яны перанеслі ў Расію, куды ў час руска-польскай вайны (1654—1667) перасяліліся ў ліку многіх выхадцаў з Беларусі. Толькі вясной 1660 г. з Віцебска выехала 30 майстроў. А ў 1656—1660 гг. з Расіі ў Магілёў, Шклоў, Віцебск, Полацк, Барысаў, Мінск неаднаразова пасылаліся даверaныя людзі, якім было даручана «сыскивать золотого и серебряного и бронного дела мастеров и учеников... их призывать к Москве на житье»[24].

Многія з гэтых рамеснікаў працавалі ва Уваскрэсенскім Нова-Іерусалімскім манастыры. Пасля звяржэння патрыярха Нікана (1666) цар Аляксей Міхайлавіч (1645—1676) патрабаваў ад манастырскіх улад «золоторей, и серебряников, и резцов, и иных всяких мастеров, которые были и ныне есть в Воскресенском монастыре, переписать и выслать их с женами и с детьми и со всеми их животы, дав им подводы, и мастеровым людям имянную роспись прислать в Оружейную палату»[25].

Пераведзеныя ў Аружэйную і Сярэбраную палаты больш за 50 выхадцаў з Беларусі[26]— рэзчыкі, чаканшчыкі, майстры скані, сусальнага серабра, чэрневых і басменных вырабаў — займаліся выкананнем заказаў царскага двара і царквы. Яны стваралі кубкі, каўшы, блюдцы, зброю, чашы, кадзілы, каўчэжцы,ківоты, аправы абразоў[27]. Многія з іх за «беспрестанную работу» акрамя кармавых былі ўзнагароджаны Аляксеем Міхайлавічам «амбурским, аглицким и кармазиновым сукном»[28].

Беларускія майстры[29] ўнеслі значны ўклад у рускае мастацтва другой палавіны XVII ст., якое развівалася ва ўзбагачэнні культур брацкіх народаў.

Паўночная вайна прынесла незлічоны ўрон гарадам, мястэчкам, сёлам Беларусі. Толькі ў Магілёве ў 1708 г. дзевяць пудоў царкоўнага серабра было перачаканена шведамі ў манеты[30].

Пасля Паўночнай вайны барока ў Беларусі ўступае ў апошнюю стадыю развіцця. У інтэр'ерах, як і ў пластыцы, у 1730—1775 гг. пануе ракако[31].

Да найбольш ранніх помнікаў гэтага стылю ў прыкладным мастацтве можна аднесці манстранц (1727) з Волпы, да позніх — рызу абраза «Маці Боская Адзігітрыя Смаленская» Пятра Сліжыка і накладку труны (1774). Выключэнне з усіх вядомых твораў складае напрастольны крыж (1789) з Гродна, які звязаны з традыцыямі мастацтва XVII ст.

Сімптомы новага стылю — класіцызму (яшчэ ў сімбіёзе з барока) — можна назіраць у грабніцы давыд-гарадоцкага майстра (1779) і манстранцы ў Будславе (1783).

Характэрнымі помнікамі ракако з'яўляюцца створаны ў другой чвэрці — сярэдзіне XVIII ст. манстранц (1727), пацір майстра Ї.Е, рэлікварыі ў Камаях, Ружанах з павышанай дэкаратыўнасцю і вычварнасцю форм, любоўю да с-падобных завіткоў. У сярэдзіне XVIII ст. у арнаментыцы з'яўляецца ракавіна, якая дала назву гэтаму стылю[32]. У дэкаратыўны арнамент з аканта ўплятаюцца стужкі, галоўкі або фігуры анёлаў, якія нясуць прылады пакут. Ускладняецца стаян. Над дэкаратыўным яблыкам іншы раз манціруецца аб'ёмная фігура Маці Боскай Нявіннае зачацце (манстранц, 1727).

Аж да канца XVIII ст. майстры захоўваюць высокі прафесіяналізм. Яны валодаюць многімі тэхнікамі: чаканкай, праразной чаканкай, гравіроўкай, ліццём, чарненнем, залачэннем.

Нягледзячы на ўзмоцненае імкненне каталіцкай царквы і пануючых класаў ніверліраваць культуру беларускага народа, яна ў XVIII ст. працягвала паспяхова развівацца.

Уласцівыя мясцовай школе залатых і сярэбраных спраў рысы прасочваюцца ў помніках з Давыд-Гарадка, Пінска, Шарашова, Месткавічаў, Гродна, Дзісны і іншых.

Наяўнасць у Давыд-Гарадку шэрага датаваных твораў і залатароў дае магчымасць уявіць характар і асаблівасці развіцця гэтага далёка не буйнога рамеснага цэнтра Беларусі[33].

Ад некалькі нязграбных і ўскладнёных барочных форм (1740—1750) мясцовыя майстры паступова пераходзяць да большай ураўнаважанасці і рацыяналістычнасці кампазіцый (1770—1779). У дыскасе, грабніцы — даразахавальніцы таго часу ўжо адчуваецца дыханне класіцызму. Давыд-гарадоцкія залатары перадавалі асноўныя стылістычныя асаблівасці сваёй эпохі. Некалькі адстае ад іх, напрыклад, гродзенскі майстар, які захаваў у сваёй рабоце (крыж 1789) барочныя формы і арнаментыку.

Давыд-гарадоцкія майстры прымалі ўдзел ва ўпрыгожанні іканастаса Георгіеўскай царквы (1724). Для мясцовага чына імі былі выкананы рызы абразоў (1752, 1767).

Пры стрыманасці і строгасці дэкора рам і цяг іканастаса, што сведчыла аб працэсе абміршчэння, які адбываўся ў мастацтве Беларусі XVIII ст., царскія вароты і размешчаныя па іх баках абразы мясцовага чына становяцца сэнсавым і ідэйным цэнтрам, якому ўдзяляецца павышаная ўвага.

Давыд-гарадоцкія майстры (1752—1767), як і сярэбранікі з Піншчыны, выканалі рызы абразоў у традыцыях барока. Пры пэўнай стылістычнай блізкасці іх творы адрозніваюцца лакальнымі асаблівасцямі і вялікай колькасцю індывідуальных манер мастакоў: давыд-гарадоцкіх майстроў захапляе ў асноўным раздробнены раслінны арнамент невысокага рэльефу, сярэбранік з Піншчыны аддае перавагу кветкам на тонкіх сцяблах з невялікім акантам, пінскі сярэбранік кветкі, вінаградныя гронкі, жалуды спалучае з ракайлем.

Значныя поспехі мясцовай школы відаць у рабоце Пятра Сліжыка, які перадае прыгажосць мафорыя Маці Боскай і гімацыя дзіцяці, аздобленых раслінным арнаментам, буйнымі кветкамі, ракайльнымі завітушкамі (іншы раз з трэльяжам). Прыгажосць рэльефнага ўзору падкрэслена канфарэнным фонам і бліскучымі залачонымі складкамі падкладкі мафорыя, хітона, праменных німбаў. З асаблівай зграбнасцю зроблены кароны. Каларыстычнае багацце і складанае пераліванне святлаценю створаны разнастайнасцю тэхнічных прыёмаў і іх дасканалым выкананнем. У рызе выкарыстаны чаканка рознай вышыні рэльефу, канфарэнне, праразная чаканка, гравіроўка, ліццё па форме, частковае залачэнне. З вялікім майстэрствам зроблены мантаж дэталяў.

У другой палавіне XVIII ст. у аправе, рызах, як і ў іншых тыпах ювелірных вырабаў, відаць стылістычная эвалюцыя. Станаўленне класіцызму прадказвае дакладны рытм вертыкальных складак рыз шарашоўскага майстра, нягледзячы на захаванне некаторых элементаў барочнай арнаментыкі.

Работы асобных рамеснікаў XVIII ст. шчыльна змыкаюцца з народным мастацтвам, якое мае цягу да прымітыву (шкатулка, 1710; аправа Евангелля з Пінска, другая палавіна XVIII ст.). У іх знайшлі адлюстраванне густы і спадзяванні пэўных сацыяльных колаў.

Буйныя заказы залатары атрымоўвалі і ад феадалаў[34], якія валодалі унікальнымі калекцыямі. У іх замках былі партрэтныя, рыцарскія залы. У сховішчы старажытнасцей меліся гетманскія булавы, жэзлы, перначы, парадныя шаблі (карабелы), залатыя і сярэбраныя рэчы, а ў тайным сховішчы — сярэбраныя фігуры апосталаў і многія іншыя каштоўныя творы мастацтва[35].

Іменна для высокапастаўленых асоб маглі быць выкананы булава і паясы з Віцебска і Брэста, булава з Каўнаса, у якіх майстры захавалі (іншы раз архаізуючыя) адлюстраванні прадстаўнікоў папярэдніх эпох, што адпавядала светапогляду шляхты эпохі сарматызму.

Уяўленне аб шырокім выкарыстанні магнатамі і шляхтай твораў ювелірнага мастацтва, якія адпавядалі патрабаванням моды, даюць партрэты XVI—XVIII стст.[36]

У быце магнатаў і шляхты выкарыстоўваўся рускі сярэбраны посуд (Міхаіл Максімаў Клікушын, чара, 1738—1759), заходнееўрапейскі (лыжкі, кубкі XVI—XVII стст.) і створаны ў Беларусі. Мясцовыя вырабы адзначаны ў інвентарах, напрыклад, «зроблен у Гродна»[37].

У залатой і сярэбранай справе Беларусі XVII—XVIII стст. побач з засваеннем заходнееўрапейскіх узораў, чаму ў значнай ступені садзейнічалі майстры з Італіі, Германіі, Польшчы, са Львова, з Кракава, якія працавалі ў Беларусі[38], відаць станаўленне беларускай нацыянальнай школы. Пры агульнаеўрапейскай эвалюцыі стыляў (XVI—XVIII стст.) для мясцовых майстроў характэрны канкрэтнасць і рацыяналістычнасць мыслення, непарыўная сувязь з народнымі і фальклорнымі традыцыямі і амаль поўная адсутнасць інтарэсаў як да абстрактнай арнаментыкі, так і натуралізму.

Немалаважную ролю ў афармленні царкоўных і свецкіх інтэр'ераў, адзення магнатаў, шляхты і іх быту адыгрываў не толькі мастацкі метал, але і іншыя віды дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: кераміка, фаянс, шкло, скура, саломка, тканіны, вышыўка, аплікацыя, шпалеры.

Некаторыя творы гэтых відаў мастацтва дайшлі да нас толькі нешматлікімі ўзорамі, якія захаваліся ў інтэр'ерах, экстэр'ерах: антэпендыумы з паліхромнай рэльефнай скуры, тканіны, царскія вароты з саломкі, фасады цэркваў, падлогі, іканастасы, дэкарыраваныя каляровымі пліткамі, паліхромнай рэльефнай кафляй, адзенне служыцеляў культу, алтарныя заслоны, балдахіны, харугвы з тканіны, упрыгожаныя вышыўкай, карункамі, аплікацыяй.

У інтэр'ерах мяшчан, знаці з XIV ст. сустракаюцца печы з гаршковай кафляй (Віцебск, Мір, Полацк, з 1304 г.)[39]. У XV ст. усё большае распаўсюджанне атрымоўвае «міскавая» кафля (Гродна, Навагрудак, Полацк, Ліда, Дзяржынск, Копысь, Свіслач, Рагачоў, Старое Сяло, Магілёў)[40]. У XVI ст. з'яўляецца пераходная да «каробчатай» паўцыліндрычная і рашотчатая кафля, якая фарміруе новы тып «камернай» печы на фундаменце, вядомы ў Беларусі з сярэдзіны XVI ст. (Віцебск)[41].

Кафля, печы, аконнае шкло неаднаразова ўпамінаюцца ў інвентарах XVI—XVII стст. (1580,

1589, 1593, 1599, 1652, 1654, 1681, 1682)[42], а таксама імёны цаніннікаў (у Магілёве ў 1681 г.— Афанас, у 1682 г.— Фёдар)[43]. Вядома паліваная печ XVII ст. у бернардзінскім манастыры ў Слоніме[44].

З'яўляючыся важным элементам інтэр'ера, печы таксама падвяргаліся стылістычнай эвалюцыі[45]. Фарміраваліся новыя тыпы печаў: грубкі, шчыты (шчыткі), сцены (сцяноўкі). У залежнасці ад месцазнаходжання ў абліцоўцы печаў кафлю пачалі ўжываць некалькіх форм: сценную, «вонкавую», якая пакрывала амаль усю «люстраную» паверхню печы, перамычкі, вуглавую карнізную (фрызавую) і зубчатую (гарадкі, «каронкі»)[46]. Мацавалася кафля пры дапамозе румпы, якая к канцу XVI ст. мела ўжо добра развітую форму кораба, адступаючага ад краёў.

Па тэхніка-матэрыяльных адзнаках кафля дзеліцца на тэракотавую («чырвоную» — XV—XVII стст.), манахромную рэльефную і паліхромную рэльефную (XVI—XVII стст., асобныя ўзоры XVIII ст.) і распісную (XVIII ст.).

Адметнай асаблівасцю паліванай кафлі з'яўляецца адначасовая наяўнасць ангоба (Полацк) і адсутнасць яго (Віцебск), калі паліва кладзецца проста на чарапок.

Па тэматыцы кафлю можна сістэматызаваць у некалькі груп: геаметрычныя матывы, адлюстраванне флоры (кветкі, расліны, фрукты), фауны (птушкі, жывёлы), гербаў (геральдычная, эмблематычная), персон (партрэты, фігуры, скамарохі, ганчары, флейтысты), зводаў, запазычаных у хрысціянскай іканаграфіі і сімволіцы (у тым ліку тэксты і г. д.), бытавых сюжэтаў і кампазітная, рапорт у якіх набіраўся з некалькіх элементаў («паўлінава вока»). Іншы раз у кафлі спалучаецца некалькі арнаментальных матываў.

Знойдзеная кафля XV—XVIII стст. сведчыць аб значным развіцці мастацтва мясцовай керамікі ў Беларусі.

У кераміцы, як ні ў якім іншым відзе прыкладнога мастацтва, ярка прасочваюцца рэнесансныя рысы. Створаныя пад уплывам надмагільнай пластыкі Беларусі, нямецкіх, чэшскіх манет, кафлі, у якіх у сваю чаргу адбыўся працэс праламлення традыцый італьянскага Рэнесанса[47], партрэты (у кафлі) XVI ст. па стылістыцы амаль супадаюць з гравіраваным адлюстраваннем Францыска Скарыны (каля 1490— каля 1551), змешчаным у Біблії (1517—1519). Гэты факт добра паказвае пранікненне рэнесансных дасягненняў у быт феадалаў, шляхты, мяшчан, заможных гараджан, што адпавядала гуманістычнаму светапогляду, які ўмацаваўся ў шырокіх колах Беларусі.

Неаслабным у XV—XVII стст. быў народны фальклорны струмень, які выліўся ў адлюстраваннях на кафлі скамарохаў, хімер, ільвоў, ваўкоў, перададзеных часта фантастычна, з гумарам.

Асаблівае месца ў кераміцы належыць паліхромнай рэльефнай кафлі 1583 г. з Міра, матыў (вазон з кветкамі) якой у розных варыянтах атрымаў шырокае распаўсюджанне ў мастацтве Беларусі XVII—XVIII стст.

У першай палавіне — сярэдзіне XVII ст. у Беларусі адбывалася засваенне новай барочнай арнаментыкі, тэхналогіі.

Вялікі ўклад у развіццё цаніннай справы ў Маскоўскай Русі ўнеслі рамеснікі, якія перасяліліся ў другой палавіне XVII ст. з цэнтраў цаніннай справы — Шклова, Копысі, Мсціслава, Магілёва.

Беларускія майстры ўвялі канструкцыю пячной абліцоўкі без вертыкальных вуглавых швоў, румпу (з адтулінамі), адступаючую ад краёў[48] кафлю, вонкавая пласціна якой мела прамавугольную форму[49].

Асабліва вялікая роля цаніннікаў ва ўсталяванні на Русі барочнай арнаментыкі з багатым яе рэпертуарам і ўвядзенні паліхромнай эмалевай кафлі чатырох колераў — белага, жоўтага, бірузова-сіняга і сіняга,— глухіх алавяных эмаляў, якія пазбаўлялі ад неабходнасці папярэдняга ангабіравання вырабаў, і празрыстай карычневай палівы[50].

Ігнат Максімаў з Копысі, Сцяпан Іваноў (Палубес) з Мсціслава «з таварышы» адраджаюць традыцыю дэкарыроўкі фасада цэркваў пліткамі (Барысаглебская царква ў Гродна XII ст.). Вялікі аб'ём і маштаб архітэктурных збудаванняў у Расіі патрабаваў ад майстроў распрацоўкі прыгожага, пышнага барочнага арнаменту, які ярка адлюстроўваў густы сваёй эпохі.

Цаніннікі выкарысталі буйны рапорт плоскаснага малюнка італьянскіх рэнесансных тканін[51] і стварылі новы матыў, названы ў Маскве «паўлінава вока». Маштаб арнаменту дасягаўся тым, што рапорт набіраўся ўжо з пэўнай колькасці (18) вялікіх кафляў (25×32). Новыя адносіны да кафлі як дэталі архітэктурнай кампазіцыі былі незвычайнымі для рускіх майстроў[52].

Уніфікацыя дэталяў фрыза (матрыца магла ўжывацца 20—25 гадоў) дазволіла выхадцам з Беларусі, якія працавалі пасля 1666 г. у Аружэйнай палаце, наладзіць шырокую вытворчасць кафлі.

Фрызы з арнаментам «паўлінава вока» дэкарыруюць фасады, барабаны Уваскрэсенскага сабора ў Новым Іерусаліме на Істры (1656—1685), царквы Рыгора Неакесарыйскага на Палянцы (1668—1678), Пакроўскага сабора ў Ізмайлаве (1671—1679).

Вялікая партыя кафлі была завезена цаніннікамі ў Маскву і Падмаскоўе. Яна выкарыстана ў над-

варотнай царкве былога Андронікаўскага манастыра (1671), саборы Іосіфа-Валакаламскага манастыра (1688—1692), Надваротным церамку ў Маскве (1693—1694), царкве Успення ў Ганчарах (1689—1702). У апошняй побач з барочным арнаментам з яблык, груш, вінаграду, ананасаў, які дэкарыраваў бакавы фасад царквы, у барабане бакавога прадзела змешчаны аб'ёмныя паўтараметровыя фігуры евангелістаў.

Акрамя новаўвядзенняў у знешнім дэкоры, звязаным з усталяваннем кафлі як часткі вялікіх арнаментальных матываў, беларусы ператвараюць плоскую кафлю з румпай у аб'ёмныя архітэктурныя дэталі[53]. Гэта дазваляе ім упершыню ў Расіі стварацъ керамічныя трох'ярусныя алтарныя перагародкі. Ва Уваскрэсенскім саборы ў Новым Іерусаліме (1656—1685) збудавана сем такіх перагародак (8×4 м). Спецыяльна выкананы для іх набор кафлі адрозніваецца ад той, якая выкарыстоўвалася для манументальных фрызаў, парталаў, налічнікаў акон (каля 60 форм)[54]. У аб'ёмнай кераміцы сустракаюцца непрывычныя для рускіх майстроў барочныя арнаментальныя матывы (фрукты, ільвіныя маскі, рознага выгляду калоны, пілястры і г. д.)[55]. Гэтыя новаўвядзенні беларускіх майстроў у XVII ст. у Маскве «зрабілі сур'ёзны пераварот у старых уяўленнях і тым узбагацілі рускае мастацтва»[56].

У пачатку XVIII ст. у Беларусі, як і ў іншых краінах, шырокае распаўсюджанне атрымоўвае распісная кафля, якая вырабляецца па ўзору галандскай. У ёй відаць пераход ад барэльефа да размалёўкі з адлюстраваннем бытавых сцэн. У другой палавіне XVIII ст. у кафлі яшчэ захоўваецца колернасць, а к канцу стагоддзя паступова ўваходзяць сюжэты. На ўзнікаючых кафельных заводах (пад Віцебскам, 1790) пачынаюць вырабляць гладкую кафлю, як і ў Расіі[57].

У інтэр'ерах канца XVIII ст., калі асаблівая ўвага ўдзяляецца шпалерам, дыванам, мэблі, люстэркам, карцінам, больш сціплым становіцца афармленне печаў. Абліцоўка печаў светлай кафляй змяняецца ляпнінай. Форма печаў у выглядзе калон, пірамід, абеліскаў нясе ў сабе рысы класіцызму, прычым у некалькі сухаватым, нямецкім яго варыянце (Нясвіж).

На працягу XII—XVIII стст. у Беларусі развівалася самабытная архітэктурна-дэкаратыўная кераміка. Аб стварэнні помнікаў на месцах сведчаць цыліндрычныя двухкамерныя печы (Мінск)[58], наяўнасць вялікай колькасці бракаванай кафлі[59], выкарыстанне адных і тых жа матрыц для выканання тэракотавай і паліванай кафлі.

Мясцовая вытворчасць кафлі ўзнікае не пазней XIV ст.[60] Яна развівалася ў агульнаеўрапейскім русле.

У XVIII ст. у Беларусі паяўляюцца новыя галіны прыкладнога мастацтва, у тым ліку фаянс. Адна з ранніх фаянсавых мануфактур была заснавана ў Свержані (1738, 1742—1762)[61]. На ёй пад кіраўніцтвам прыдворных мастакоў Радзівілаў — Дамініка Гескі (—1764), Аляксандра і Мікалая Струмецкіх[62] ствараліся фігуркі шляхціцаў (Нацыянальны музей у Кракаве), бюсты айцоў царквы, якія захоўваліся да Вялікай Айчыннай вайны ў Нясвіжы[63], а таксама кафля, садовыя вазы, посуд, аб чым паведамляецца ў рэестрах гэтай мануфактуры.

Другая значная фаянсавая мануфактура была закладзена ў 1778—1779 гг. у Целяханах. Праіснавала яна да 1830 г.[64] Вырабы гэтай мануфактуры (з меткай «СО» або «О» карычневай, малінавай, падглазурнай) знаходзяць аналогіі ў Марэбергу пад Стакгольмам. На мануфактуры стваралася не менш як 7 відаў вырабаў: вазы для духмянасцей (pôt pourri), кафля, падсвечнікі, фігуркі і садовыя вазы з яркімі пластычнымі рэльефнымі кветкамі, гірляндамі, бычынымі галовамі (букраніі), жаночымі маскамі (Нацыянальны музей у Варшаве).

Прадукцыя гэтых мануфактур, прызначаная для ўнутранага рынку, ішла на ўпрыгожанне палацаў, паркаў.

У афармленні інтэр'ераў аптэк — новых культурных цэнтраў, што ўзнікалі ў XVIII ст., немалая роля адводзілася аптэчнаму посуду з фаянсу (сасуд у Гродна), дрэва, металу, шкла, які вырабляўся на мясцовых і замежных мануфактурах.

Вялікі попыт на вырабы са шкла прывёў да ўзбуйнення старых гут і цэнтраў у Беларусі і садзейнічаў стварэнню новых. Яны ўзніклі ў Налібоках (1717), Урэччы (1732 або 1737), Мышы (1736), Ільі (1767 або 1769), Гродна (1770), Крычаве (1779) і іншых населеных пунктах (не менш чым у 26)[65] і ў сваім развіцці абапіраліся на традыцыі мастацтва шкловытворчасці Беларусі папярэдніх эпох, у тым ліку народных гут.

Знойдзеныя археолагамі ўзоры шкла XI—XIII стст. сведчаць, як і помнікі ювелірнага мастацтва, мастацкага металу, пластыкі, аб цяснейшых сувязях з Кіеўскай Руссю (Мінск, Навагрудак, Гродна, Полацк, Лукомль, Брэст і інш.)[66], Візантыяй, Заходняй Еўропай, Блізкім Усходам (Ваўкавыск, Навагрудак, Тураў)[67].

У асноўным знойдзенае ў Беларусі шкло з'яўляецца тыпова старажытнарускім. Яно стваралася з улікам густаў жыхароў гарадоў: у Полацку часцей за ўсё сустракаюцца шкляныя бранзалеты, пацеркі аліўкавага, сіняга, жоўтага колераў, якія даюць падставу меркаваць аб наяўнасці ў другой палавіне XIII ст. мясцовага шклавырабу, у Мінску — чорнага, былі таксама вядомы празрыстыя,

блакітнага, зялёнага, фіялетавага, карычневага, жоўтага, аліўкавага і чырвонага колераў[68].

Мабыць, у XIV—XVI стст. працягвалі функцыяніраваць цэнтры шклавырабу, якія ўзніклі ў папярэдні перыяд (Полацк, Ліда?)[69]. Уяўленне аб развіцці і распаўсюджанні тыпаў і форм сасудаў у XV ст. дае летапіс[70].

У XV—XVII стст. паяўляюцца цэхі ў Вільна, Гродна, Магілёве, Полацку, Міры[71], гуты, узнікаюць новыя цэнтры ў Брэсце, Шыдлоўцах, Любчы, Полацку, Оршы, Магілёве, Шклове, Мігуновічах, Навагрудку, Друцку, Тураве, Пінску, Іўі і ў іншых гарадах[72].

Вырабы са шкла XV—XVII стст. дайшлі да нас у шматлікіх фрагментах. Аб шырокім выкарыстанні іх у быце, у інтэр'ерах сведчаць інвентары і архіўныя матэрыялы[73].

Шклаinstallation (Афонька Юдзін з Копысі, Івашка Самойлаў са Шклова і інш.), люстэршчыкі, гранільшчыкі алмазаў, якія працавалі ў Маскве ў другой палавіне XVII ст., унеслі значны ўклад у рускае мастацтва[74].

Больш поўнае ўяўленне аб стане мастацкага шкла ў Беларусі даюць такія мануфактуры, як Налібоцкая (1717—1867), Урэцкая (1732 або 1737—1846)[75].

Налібоцкая шкляная мануфактура была створана па тыпу саксонскай дрэздэнскай. Колькасць нямецкіх спецыялістаў у ёй паступова памяншалася, мясцовых — павялічвалася.

Да 1750 г. адбываўся абмен майстрамі і вырабамі гэтых дзвюх мануфактур, што садзейнічала ўздыму і больш інтэнсіўнаму развіццю вырабу шкла ў Беларусі. Аб'ём прадукцыі ў іх быў вельмі вялікі: у 1798 г. у асартыменце ўпамінаецца 100 назваў.

Вырабы ўрэцка-налібоцкай мануфактуры створаны ў рэчышчы агульнаеўрапейскай культуры[76]. У ранніх узорах адчуваецца вялікі ўплыў вядучых еўрапейскіх цэнтраў шклавырабу гэтага часу — Чэхіі і Германіі. У работах сярэдзіны — другой палавіны XVIII ст. з'яўляюцца адметныя рысы: спачатку некаторая нязграбнасць, цяжкавагавасць і непрапарцыянальнасць форм, потым пошукі новых варыянтаў іх і, нарэшце, стварэнне мясцовых (каля 15)[77].

Адметнай рысай гэтых мануфактур быў высокі ўзровень шліфоўкі і гравіроўкі. Шліфавальшчыкі і гравіроўшчыкі Налібок і Урэчча засвоілі тэхнічныя прыёмы нямецкіх шкларобаў, мясцовых залатароў і сярэбранікаў і беражліва перадавалі гэтае мастацтва з пакалення ў пакаленне. Вядомы цэлыя дынастыі майстроў Дубіцкіх, Рымашэўскіх, Залескіх, Станцэвічаў, Адамовічаў, Александровічаў, Дашкевічаў і інш. У іхніх вырабах ужываецца плоскасны і аб'ёмны тыпы гравіроўкі. Арнаментальнымі ўзорамі, своеасаблівымі «кужбушкамі» для мясцовых майстроў служылі вырабы чэшскіх, нямецкіх гут, гравюры старадрукаваных кніг, якія выдаваліся ў Вільна, Беларусі, Заходняй Еўропе[78].

Форма помнікаў сярэдзіны — другой палавіны XVIII ст. (шкляныя рамы люстэркаў, кубкі, флеты, штофы, жырандолі) і арганічна звязаны з ёй дэкор (донцы, чашы з гравіраваным і рэльефным раслінным арнаментам, геральдычнымі матывамі, вензелямі, эмблематамі, манаграмамі), прапорцыі і малюнак балясападобных ножак выкананы ў традыцыях пышнага, урачыстага барока. К канцу стагоддзя пад уплывам англійскага шклавырабу, найбольш магутнага еўрапейскага мастацкага цэнтра, змяняецца характар помнікаў. Форма вырабаў становіцца больш строгай, адсутнічае балясіна ў ножках флетаў, кілішкаў, з'яўляецца новая форма донца, уводзіцца рэгулярны геаметрычны арнамент — «несапраўдная алмазная грань». Гэта сведчыць аб станаўленні ў шкловытворчасці класіцызму.

На ўрэцка-налібоцкіх мануфактурах стваралася пераважна бескаляровае шкло, але вядомы асобныя ўзоры і каляровага (зялёнага і рубінавага).

Славу гэтым мануфактурам прынёс выраб люстэрак, упрыгожаных рамамі са шкла з разьбой і шліфоўкай, а таксама люстраў, жырандоляў, рэфлектараў.

На базе традыцый мастацтва XV—XVII стст., у тым ліку і народных гут, і скарыстаўшы дасягненні заходнееўрапейскай шкловытворчасці, у Беларусі было створана мастацкае шкло з мясцовымі адметнымі асаблівасцямі.

Вельмі важная роля ў быце, касцюме феадалаў, афармленні інтэр'ераў на працягу XII—XVIII стст. належала ткацтву, вышыўцы, карункам, шпалерам і дыванам.

Найбольш раннія ўзоры ткацтва адносяцца да XII ст. (Гродна, Мінск, Навагрудак)[79]. Адначасова з дарагімі ўзорнымі, залотнымі прывазнымі тканінамі ў старажытных гарадах Беларусі выкарыстоўвалася прадукцыя мясцовага вырабу, аб чым сведчаць шматлікія знаходкі археолагаў (валокны шэрсці, ільну, верацёны, дэталі ткацкіх станкоў)[80].

У XV—XVII стст. тканіны шырока імпартаваліся з Італіі, Іспаніі, напрыклад залотны пяцельны рыты аксаміт XVI ст. з буйным рапортам плоскага арнаменту[81].

Аб знаёмстве вышывальшчыкаў у Беларусі з традыцыямі заходнееўрапейскай і рускай сюжэтнай і арнаментальнай вышыўкі канца XV—XVI стст. даюць уяўленне фрагмент «пеляны» з Полацка і калона арната з Пінска. Фонам для вышыўкі служылі тафта, камка, атлас, прывезеныя з Захаду і Усходу.

Тканіны ўпамінаюцца ў інвентарах цэркваў, палацаў, у завяшчаннях, кантрактах з майстрамі ў XVI—XVII стст.[82] Напрыклад, у інвентары Ляшчынскага манастыра пад Пінскам (1588): «кітайка чырвоная, крашаніна чырвоная, набіванка, камка, махаяравыя бурнатныя, золатагаловыя, аксаміт, адамашак, шоўк, гамлет, паўатлас»[83]. Яны каштавалі вельмі дорага і таму былі даступны толькі высокапастаўленым асобам, беражліва захоўваліся, перадаваліся па спадчыне, перакройваліся і перашываліся. Тканіны лічыліся каштоўным падарункам. «Агліцкім» сукном і іншымі замежнымі адрэзамі неаднаразова ўзнагароджваў Аляксей Міхайлавіч беларускіх майстроў, якія працавалі ў Маскве. Жывапісцу Афанасію Антановічу (у 1539—1540 гг.) архімандрыт гродзенскага Барысаглебскага манастыра абяцаў «кгды року дослужить две копы грошей, або сукно пурпиянское дати и добровольно отпустити»[84].

Каштоўны матэрыял па арнаментыцы тканін, карункаў, вышывак, тасьмы, стужак даюць творы жывапісу і скульптуры Беларусі XII—XVIII стст.[85]

У XVII ст. рамеснікі ў цэхах Слоніма (1605, 1609—1697), Мінска (1686), Слуцка (1664, 1683—1705), Капыля (1706)[86] і ў многіх іншых цэнтрах ткацтва (Нясвіж, Давыд-Гарадок, Клецк, Койданава, Любча, Мір, Ружаны, Карэлічы, Друя, Шклоў, Быхаў, Копысь, Горкі, Магілёў, Полацк, Дуброўка)[87] выраблялі сукно, атлас, тасьму, галуны.

У статуце цэха слуцкіх ткачоў (1664) быў запісаны вельмі цікавы для нас пункт аб патрабаванні да вырабу: «Шырыня кожнага палатна павінна быць такой, колькі складае маток нітак, зложаных у два разы»[88].

У XVII ст. яшчэ сустракаецца вышыўка «ў прыкрэп» каляровымі і залотнымі ніткамі, вядомая ў мастацтве канца XV—XVI ст., але большае распаўсюджанне атрымоўвае характэрная для барочнага мастацтва Заходняй Еўропы і Расіі залотная высокарэльефная дэкаратыўная арнаментаваная вышыўка «ў прыкрэп» па карце, так званая «вышыўка на чаканную справу».

Залаташвейнікі ў канцы XVI — першай палавіне XVII ст. нярэдка ўваходзілі ў аб'яднаныя цэхі з ткачамі, сярэбранікамі, ювелірамі, рэзчыкамі па дрэву, як, напрыклад, у Слуцку [89].

У XVII ст. пачынаецца вытворчасць бязворсавых дываноў (кілімаў) у Мядзелі, пад Мсціславам, у Мінску, Слуцку, Магілёве, Шклове, Полацку і ворсавых дываноў у Слуцку [90].

У XVI—XVII стст. у Беларусі былі закладзены асновы ўзорнага мастацкага ткацтва, вышыўкі, дыванавай вытворчасці, на базе якіх шырокае развіццё атрымалі мануфактуры.

Тканіны рускай, заходнееўрапейскай і мясцовай вытворчасці, якія выкарыстоўваліся ў свой час для касцюмаў, абіўкі мэблі, інтэр'ера і дайшлі да нас часта ў паўторным ужыванні (у царкоўным адзенні), даюць магчымасць убачыць прыгажосць іх узораў, уменне майстроў узаемаўвязваць розныя па малюнку тканіны ў адзінае цэлае, дзе важная роля адведзена вышыўцы, карункам, галунам.

У XVIII ст. у Беларусі была наладжана вытворчасць разнастайных відаў шаўковых, залотных тканін (адамашак, атлас, паўатлас, аксаміт і інш.), шаўковых і залотных карункаў (край, аграмант, прошва), набіванкі.

У шаўковых тканінах, што ствараліся на мясцовых мануфактурах, відаць засваенне распрацаванай таленавітым ліёнскім ткачом і мастаком Жанам Рэвелем (Jean Revel, 1684—1751) новай тэхнікі «points rentrés», якая дазволіла перадаваць святлоценявую мадэліроўку форм (буйных кветак) узора[91] і арнаментальных матываў французскіх тканін — карункавыя ўзоры, імітацыю футра, ракайль, архітэктурны, фларальны і арыенталізуючы, шынаўзеры («chinoiseri»).

У тканінах мясцовых мануфактур амаль адначасова з французскім прыкладным мастацтвам 1760—1780 гг.[92] прасочваецца стылістычная эвалюцыя (ад ракако да класіцызму). У арнаментыцы з'яўляюцца букеты са стужкамі, гірлянды, вянкі, палявыя кветкі, знікае ракайль, выпрамляюцца вертыкальныя палосы, высвятляецца фон і іншымі становяцца суадносіны яго і дэкаратыўных форм. Большая строгасць, рэгулярнасць, ураўнаважанасць кампазіцый дэманструюць станаўленне класіцызму, якое адбылося ў ткацтве раней, чым ва ўсіх астатніх галінах прыкладнога мастацтва Беларусі.

Найбольш паслядоўна гэтая з'ява назіраецца на ўзорах, створаных, магчыма, на мануфактуры ў Ружанах і каралеўскай мануфактуры ў Гродна (пасля 1765—1784) пры кіраванні ёю Антоніем Тызенгаўзам (1733—1785) і пры генеральным дырэктары французе Якабу Бек'ю (Jakub Bécu)[93], які прыбыў у 1772 г. з Берліна.

У адным з пісьмаў (1777)[94] ліёнскі майстар, ткач гродзенскай мануфактуры Вінцэнт Дзюпяней, упамінаў аб ткачах Селімандзе з Ліёна, Пілецi, Паалецi, Карсаліні з Фларэнцыі і іншых мастаках з Гамбурга, Данцыга, Саксоніі, якія жылі ў Гродна. Усяго на каралеўскай мануфактуры працавала не менш як 70 замежных майстроў. Матэрыялы і 70 % абсталявання былі завезены з Ліёна, Гданьска, Неапаля. Стваральнікамі малюнкаў былі французскія мастакі.

На шаўковай каралеўскай мануфактуры, як і на 20 іншых, выпускаліся прадметы раскошы. Яны адпавядалі густам шляхты і магнатаў, якія арыен-

таваліся на навамоднае заходнееўрапейскае мастацтва. Стужкі, дываны, шалі, кісяі, шаўковыя і абіўныя тканіны, карункі, галуны, абрусы, сурвэткі з галандскага палатна і многія іншыя вырабы былі выкананы на шаўковай, дывановай, карункавай, палатнянай, суконнай, паркаледрукаванай фабрыках па заходнееўрапейскіх узорах. Па выключнай дыхтоўнасці матэрыялу, маляўнічай палітры, элегантнасці і багацці ўзораў, віртуознай тэхніцы выканання яны адставалі ад французскіх і былі значна даражэйшыя, што і паслужыла адной з прычын крушэння задумы А. Тызенгаўза[95].

У XVIII ст. адбываюцца перамены ў вышыўцы — уводзяцца новыя матэрыялы і тэхнічныя прыёмы, выкарыстоўваюцца шклярусы, перламутр, бліскаўкі. Вышыўка выконваецца біццю і каніцеллю. Рэльефная вышыўка змяняецца гладдзю. Сустракаецца вышыўка арнаментальная, сюжэтная тамбурным швом і сінеллю. Сур'ёзная ўвага ўдзяляецца аплікацыі (праразной і накладной) з выкарыстаннем залотнага галуна, вышыўкі каляровымі шаўковымі ніткамі. У гэтым жа стагоддзі працягвае развівацца набіванка (вядомы і датаваны помнік 1781 г.).

Наяўнасць мясцовай вытворчасці, якая ўвабрала традыцыі французскага мастацтва і характэрнага для барока (XVIII ст.) вяртання да культуры Усходу, знайшла ўвасабленне ў найбольш значным і магутным цэнтры ткацтва Беларусі — Слуцку.

Узнікненне слуцкай «Персіярні» адбывалася ў 1730—1750-я гг. на базе рэарганізацыі трох прадпрыемстваў — фабрыкі залотных галуноў, паясоў і «розных матэрый» — і перамяшчэння мануфактуры паясоў з Нясвіжа ў Слуцк[96]. Гэта першы (нясвіжска-слуцкі) перыяд слуцкай «Персіярні» (паясоў з меткай «Нясвіж» пакуль не знойдзена).

У 1757 г. на вучобу ў Станіслаў (цяпер Івана-Франкоўск) накіроўваюцца мясцовыя майстры Іосіф Барсук, Томас Хаецкі і Ян Гадоўскі. Яны не толькі асвоілі вопыт гэтай мануфактуры, але і прывезлі «персідскія, стамбульскія і кітайскія» станкі, а таксама выканалі дыпламатычную місію: па даручэнню магната запрасілі вядомага майстра і мастака Яна Маджарскага перасяліцца ў Слуцк. У канцы 1757 г. ён быў ужо ў Беларусі. У наступным годзе ў Нясвіжскім замку М. К. Радзівіл падпісвае кантракт на выраб «персідскай, турэцкай, кітайскай матэрыі і работы» з гэтым таленавітым армянскім майстрам Янам Маджарскім (Ioannes, Jan Madżarski, Іван Манджарэнц, бацька Нума), «родам са Стамбула» (— пасля 1780 г.), які ў час сваёй дзейнасці ў Станіславе заклаў асновы фарміравання новага тыпу пояса, які атрымаў сваё далейшае развіццё ў Слуцку.

К 1760 г. у Слуцку мелася абсталяванне, працавалі кваліфікаваныя спецыялісты і «хлопцы», якіх па ўмовах вышэйназванага кантракта павінны былі «вывучыць дасканала той рабоце персідскай». Плацілі ўсім рамеснікам «згодна ступені майстэрства».

У гэты найбольш плённы і адказны перыяд слуцкай мануфактуры (каля 1760—1778) знайшло сваё завяршэнне фарміраванне тыпу «слуцкага пояса». «Metr fabriki perskoj» Ян Маджарскі паменшыў шырыню персідскага пояса да 20—40 см, змяніў яго даўжыню да 260—450 см для таго, каб, склаўшы папалам, яго можна было адзін — тры разы завязаць вакол таліі з апушчанымі спераду канцамі. Спосаб нашэння такіх паясоў можна ўбачыць на партрэтах магнатаў і шляхты 1760—1800 гг. «Главы» пояса, з'яўляючыся найбольш выразнымі элементамі кампазіцыі, перш за ўсё прыцягвалі ўвагу майстра. Ён адмовіўся ад трох, чатырох і больш матываў і пакінуў толькі адзін, два, радзей тры, павялічыў іх да 25—30 см. На канцах паясоў яшчэ іншы раз захоўваліся элементы ўсходняй арнаментыкі, але асноўны акцэнт рабіўся на раслінны матыў. У сярэдніку з папярочных палос і бардзюрах пояса знікаюць умоўна-геаметрычны арнамент, адлюстраванні людзей, жывёл, партрэты. У гэты перыяд Янам Маджарскім была выпрацавана строгая і гарманічная структура арнаменту пояса новага тыпу.

«Слуцкі пояс» набыў поўную кампазіцыйную завершанасць на трэцім этапе развіцця слуцкай мануфактуры (1778—1807) пры былым камісару яе (з 1762), потым арандатару, сыну і пераемніку Яна Маджарскага — Леоне Маджарскім (—1811).

Гэты перыяд азнаменаваны, па-першае, з'яўленнем новага мастацкага рашэння сярэдніка пояса, у якім чаргаванне аднолькавай шырыні палос замяняецца рознымі па колеру, шырыні, арнаменту, па-другое, больш гучным каларытам, па-трэцяе, аконтурваннем арнаменту малюнка канцоў пояса і, нарэшце, павышэннем увагі да махроў, якія цяпер заўсёды прышываюць да пояса (даўжыня 5—20 см).

Іменна ў гэты час матывы мясцовай флоры (васількі, незабудкі, рамонкі, жалуды, елачкі, лісце клёна, дуба і інш.) поўнасцю выцясняюць персідскую арнаментыку.

Заслуга слуцкіх ткачоў у распрацоўцы двухбаковага з чатырма асноўнымі колерамі пояса, стварэнне якога падвяло вынікі пройдзенага мануфактурай шляху ад аднабаковага (з выварагам) з адным і двума асноўнымі колерамі да двухбаковага (без вывараtу) з двума асноўнымі коле-

